*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# НАША СЛОВА.pdf



**Трэці год выдання** **№ 10 (114) 6 сакавіка 2024 г.**

# З Міжнародным жаночым днём 8 сакавіка!



## Беларускія жанчыны

Не гартаў я фаліянтаў
пажаўцелыя старонкі,
Не шукаў пра вас паданняў,
пыл стагоддзяў не страсаў.
Чуў я змалку плач ваш горкі,
чуў я смех ваш срэбразвонкі,
Беларускія жанчыны -
неўміручая краса!
Станам - зграбныя бярозкі,
што павыбеглі край руні,
Замест воч - асколкі неба
яснай чэрвеньскай пары;
Валасы - ручайкі лёну,
галасы - напеў шматструнны,
А усмешкі - водбліск ясны
санцавейнае зары.
Гордасць, пэўна, узялі вы
ў Рагвалодавай Рагнеды,
Дум ясноту Ефрасіння,
пэўна, ў спадчыну дала.
Кроў свавольных крывічанак
не схіляла вас у бедах, -
Пакідалі вы святліцы,
бралі ў рукі вы булат.
Нёс тэўтонскі крыжаносец
на канцы мяча няславу,
На зямлю славян-суседзяў
ваяўнічы рушыў швед.
Адгукаўся Яраслаўне
голас цвёрды Гарыславы,
Клікаў віцязяў у бітве
затаптаць варожы след.
Крывічоў зямля лясная
не скаралася няволі,
Хоць не раз іх род нязломны
у пабоішчах палёг.
Паланянкамі былі вы,
а рабынямі - ніколі! -
Хоць у гневе неразумным
адварочваўся Стрыбог.
Колькі вы пакут зазналі -
не зазнаў ніхто на свеце!
Кветкі-браткі - вашы слёзы
прарасталі па лясах;
Сек няшчадна вам абліччы
ліхалецця снег ды вецер,
А не звяла, не змарнела
ваша гордая краса!
Гнулі спіны вы ў прыгоне,
жалі жыта Радзівілам,
Пелі песні немаўляткам
пры лучыне ў позні час;
Гадавалі веліканаў,
каб дужэў народ-асілак,
Налівалася каб сіла
незгінальная ў плячах!
Вы зазналі дым і попел,
спусташэнне лютых войнаў,
Хлеб з бядою-лебядою,
лёс салдаткі-удавы;
Вы трывожна сустракалі
век дваццаты неспакойны;
Не схілялі ў час нашэсцяў
непакорнай галавы.
Вам знаёмы кроў і порах,
партызанскія сцяжыны,
Помсты жар у сэрцах добрых,
дзе б каханню гнёзды віць;
Вы на смерць ішлі без страху,
беларускія жанчыны,
У імя Радзімы светлай,
міру, шчасця і любві!
Вы умелі быць гразою.
Чырванець умелі ружай.
Рассыпаць дабра алмазы.
Карчаваць карэнне зла.
Гэта ваша бессмяротнасць
увасоблена ў Харужай,
З вашай мужнасцю Мазанік
меч дамоклаў узняла!
Вы - пачатак прыгажосці,
вы - жыцця першапрычына,
Бачу будучыню вашу
я ў служэнні хараству.
Я цалую вашы рукі,
беларускія жанчыны!
Я схіляю перад вамі
ў знак пашаны галаву!

***Алесь Звонак.***

# Тыдзень роднай мовы

## *Рэспубліканская дыктоўка па беларускай мове ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі*

21 лютага чарговы раз навукоўцы селі за парты, каб разам напісаць дыктоўку па беларускай мове. У 2024 годзе тэму Рэспубліканскай дыктоўкі, прымеркаванай да Міжнароднага дня роднай мовы, прысвяцілі 80-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Падзея адбылася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Дыктоўка трансілявалася на канале "Культура" Беларускага радыё і YouTube-канале Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа.




Колькасць удзельнікаў перавышала колькасць заявак. Як адзначыў дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі Ігар Лявонавіч Капылоў, у свеце расце папулярнасць беларускай мовы, у гэтым годзе значна пашырылася геаграфія ўдзельнікаў Рэспубліканскай дыктоўкі. Адначасова дыктоўку пісалі людзі з Беларусі, Расіі, Кітая, Японіі, Латвіі, Эстоніі, Канады і ЗША.

Ва ўступным слове, звяртаючыся да ўдзельнікаў мерапрыемства, І.Л. Капылоў падкрэсліў, што асноўнай мэтай напісання дыктоўкі з'яўляецца не толькі тое, каб



кожны ахвочы мог праверыць узровень валодання беларускай мовы, але і дазваляе адчуць яе непаўторны каларыт і самабытнасць, звярнуцца да духоўных каранёў.

У адрозненне ад мінулых гадоў, калі для дыктоўкі выбіраўся тэкст з мастацкіх твораў, цяперашняе заданне падрыхтавана па матэрыялах Айчыннай публіцыстыкі пра Вялікую Айчынную вайну.






Па заканчэнні дыктоўкі спецыялістамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа быў зроблены лінгвістычны аналіз. Удзельнікі праверылі вынікі напісання і абмеркавалі ўласныя памылкі.

Прызамі для тых, хто лепш за ўсё справіўся з заданнем, сталі слоўнікі па беларускай мове, у ліку якіх "Слоўнік новых запазычаных слоў беларускай мовы".

Дарэчы, з апошнімі выданнямі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі можна было азнаёміцца на выставе, якую падрыхтавала да мерапрыемства Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа НАН Беларусі

***Наш кар.***




# Сустрэча вучняў 5-11 класаў ДУА "Гімназія № 22 г. Менска" з навуковымі супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры

21 лютага прайшла сустрэча вучняў 5-11 класаў ДУА "Гімназія № 22 г. Мінска" з навуковымі супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Юліяй Хвіланчук і Ірынай Галавіной, а таксама дацэнтам кафедры мовазнаўства і лінгвадыдактыкі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка кандыдатам філалагічных навук Юрыем Чарнякевічам.




Перад вучнямі выступіла Юлія Леанідаўна Хвіланчук. Даследчык расказала вучням, колькі дыялектаў мае беларуская мова, на аснове якой групы гаворак склалася беларуская літаратурная мова, а таксама звярнула ўвагу на адметныя лексічныя адзінкі, якія ўжываюцца ў гаворках беларускай мовы. З мэтай абудзіць цікавасць да народнай мовы, Юлія Леанідаўна звярталася да вучняў з пытаннямі. Гімназісты даведаліся, што ў беларускіх народных гаворках адзін і той жа прадмет і з'ява можа абазначацца рознымі словамі. Дакладчык на канкрэтных прыкладах прадэманстравала багацце і разнастайнасць беларускай дыялектнай мовы.






На сустрэчы Ю. Хвіланчук пазнаёміла вучняў і з асноўнымі лексікаграфічнымі і лінгвагеаграфічнымі працамі, якія створаны ў галіне дыялекталогіі беларускай мовы. Асаблівую ўвагу мовавед сканцэнтравала на лінгвагеаграфічных выданнях, якія былі ўзнагароджаны Дзяржаўнымі прэміямі - "Дыялекталагічным атласе беларускай мовы" і "Лексічным атласе беларускіх народных гаворак". Акрамя таго, вучні пазнаёміліся з важнейшымі лексікаграфічнымі працамі, у якіх адлюстравана беларуская народная лексіка.

Потым вучням быў прадэманстраваны дакументальны фільм "Гаворкі Беларусі". Напрыканцы сустрэчы І. Галавіна прапанавала вучням шэраг пытанняў, на якія яны ахвотна адказвалі. Думаецца, што гэты фармат сустрэчы дазволіў больш падрабязна азнаёміць вучняў з беларускімі народнымі гаворкамі, абудзіў у іх цікавасць да роднай мовы.

***Наш кар.***

# "Купалаўскую дыктоўку" ў Дзень роднай мовы напісалі больш за 1 тыс. чалавек

21 лютага ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень роднай мовы. З гэтай нагоды ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы напісалі традыцыйную "Купалаўскую дыктоўку", якая праходзіць у шосты раз. Дыктоўка прымеркаваная і да Дня нараджэння Купалаўскага ўніверсітэта: 22 лютага яму спаўняецца 84 гады.

З прывітальным словам да ўдзельнікаў мерапрыемства звярнулася рэктар ГрДУ імя Янкі Купалы Ірына Кітурка.

- Дзень роднай мовы асаблівы для кожнай нацыі, кожнага народа, бо няма народа без мовы, няма мовы без яе носьбіта. Нішто так не яднае народ, як мова і радзіма. Кожны чалавек павінен ведаць і паважаць мову сваёй радзімы. Важна ўсвядоміць, што мова - гэта наша багацце, а ведаць і абараняць яе - наш абавязак, - адзначыла ў сваёй прамове рэктар.

У вялікай аудыторыі ўніверсітэта сабраліся студэнты і выкладчыкі, каб праверыць свае веды беларускай літаратурнай мовы і правапісу. Удзельнікі святочнай акцыі ўважліва слухалі голас вядоўцы, якая чытала тэкст, пасля чаго кожны спрабаваў запісаць яго пад дыктоўку. Час ішоў хутка, а напружанне расло з кожным сказам.







Разам з купалаўцамі дыктоўку пісалі і замежныя ўдзельнікі - прадстаўнікі дыпламатычных місій Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, Рэспубліцы Арменіі, Рэспубліцы Узбекістан, Рэспубліцы Казахстан, Рэспубліцы Таджыкістан, Кітайскай Народнай Рэспубліцы, Рэспубліцы Індыя, Сацыялістычнай Рэспубліцы В'етнам, Турэцкай Рэспубліцы, Дзяржаве Ізраіль, Кыргызскай Рэспубліцы і Туркменістане, далучыўшыся пасродкам платформы ZOOM.







Да маштабнай падзеі таксама далучыліся рэгіянальная нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларусы Масквы", дыяспары беларусаў у Алматы і Актаў, цэнтр беларускай мовы і інавацыйных тэхналогій пры Таджыцкім нацыянальным універсітэце, Варонежскі дзяржаўны ўніверсітэт, МДУ імя М.В. Ламаносава і іншыя замежныя ВНУ-партнёры.

Як падкрэсліла загадчык кафедры беларускай філалогіі ГрДУ імя Янкі Купалы Алена Садоўская, пісаць "Купалаўскую дыктоўку" ў Дзень роднай мовы ўжо стала добрай традыцыяй ва ўніверсітэце.

"Купалаўскую дыктоўку" пісалі адразу ва ўсіх карпусах універсітэта, а таксама ў каледжах. У кожнай установе налічвалася каля 100 удзельнікаў акцыі.

Адказная місія сёння была ў студэнткі спецыяльнасці "Журналістыка" - пераможцы рэспубліканскага




конкурсу "Студэнт года-2024" Анастасіі Кісель. Менавіта яна чытала тэкст купалаўцам і тым, хто далучыўся да дыктоўкі па відэасувязі.




- Сёлета тэкст дыктоўкі прысвечаны 80-годдзю вызвалення Беларусі. Гэта своеасаблівая праява любові да роднага краю. Мы павінны памятаць тыя жудасныя гады, каб больш ніколі такое не паўтарылася, - распавяла Анастасія Кісель.







Сваімі ўражаннямі ад першай спробы напісаць дыктоўку па-беларуску падзяліўся студэнт 4 курса факультэта матэматыкі і інфарматыкі ГрДУ імя Янкі Купалы Сахабанду Шаніл Крыстафер:

- Я первый раз пишу на белорусском языке. Мне было очень сложно, но и очень интересно. Белорусский язык - красивый, и писать на нем мне понравилось.

Напрыканцы мерапрыемства на тварах многіх удзельнікаў зайграла лагодная ўсмешка: яны былі задаволены як вынікамі дыктоўкі, так і тым, што далучыліся да знакавай падзеі ў святочны для ўніверсітэта тыдзень.

"Купалаўскую дыктоўку" ў Дзень роднай мовы напісалі больш за 1 тыс. чалавек, паведаміў карэспандэнт БЕЛТА.

# Традыцыйная "Купалаўская дыктоўка" прайшла ў сценах юрыдычнага факультэта ГрДУ імя Янкі Купалы

Добрую традыцыю праводзіць у Міжнародны дзень роднай мовы, які адзначаецца 21 лютага, "Агульную ўніверсітэцкую Купалаўскую дыктоўку" з поспехам паўтарылі і сёлета напярэдадні дня нараджэння ГрДУ імя Янкі Купалы. Мерапрыемства пачалося адначасова ва ўсіх карпусах універсітэта. Кожны купалавец мог напісаць дыктоўка і праверыць такім чынам узровень валодання беларускай мовай.





Студэнты і выкладчыкі юрыдычнага факультэта і факультэта біялогіі і экалогіі таксама ўключыліся ў мерапрыемства. Разам з імі да анлайн-трансляцыі падлучыліся прадстаўнікі пасольстваў Беларусі ў Арменіі, Узбекістане і Кітаі, Генеральнага консульства Беларусі ў Стамбуле, Варонежскага дзяржаўнага ўніверсітэта, гуманітарнага каледжа ГРГУ імя Янкі Купалы.

***Наш кар.***

# У ГрДМУ прайшла рэспубліканская беларускамоўная дыктоўка

Традыцыйная рэспубліканская беларускамоўная дыктоўка была прысвечана Міжнароднаму дню роднай мовы. У ёй прынялі ўдзел студэнты, выкладчыкі і супрацоўнікі Гарадзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

У гэтым годзе дыктоўка была адрасавана 100-годдзю з дня нараджэння вядомага пісьменніка Васіля Быкава. Удзельнікі пісалі ўрывак з аповесці "Трэцяя ракета".



- Сёння ва ўсім свеце святкуецца Дзень роднай мовы. Гэта цудоўная нагода яшчэ раз успомніць родную мову. Традыцыйна ў гэты дзень Гарадзенскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт праводзіць розныя мерапрыемства. Адно са значных - напісанне дыктоўкі, - распавёў каардынатар правядзення дыктоўкі, старшы выкладчык рускай і беларускай моў Віктар Іванавіч Варанец, - удзел у ёй штогод прымаюць не толькі студэнты ВНУ, але і супрацоўнікі, выкладчыкі. І гэта вельмі прыемна, што яны знаходзяць час на такое мерапрыемства.

Як адзначыў Віктар Іванавіч, пасля напісання дыктоўкі тэкст выводзіцца на экран, і кожны ўдзельнік сам правярае колькасць памылак, калі такія ёсць. Мэта гэтага мерапрыемства заключаецца ў тым, каб не паставіць нейкую асабістую адзнаку, галоўны пасыл - яшчэ адзін раз пачуць родную мову, напісаць словы на ёй і ацаніць свае веды.









Таксама, у рамках напісання дыктоўкі адбылося ўзнагароджанне ўдзельнікаў конкурсу эсэ "МОВА МАЯ БЕЛАРУСКАЯ". Арганізатар конкурсу - літаратурны клуб "Катарсіс". Удзел прынялі больш за 30 чалавек - гэта студэнты, выкладчыкі, супрацоўнікі ВНУ, а таксама навучэнцы сярэдніх школ Гародні. Пераможцы конкурсу атрымалі сертыфікат, а таксама памятныя падарункі.

***Матэрыял падрыхтаваў аддзел па сувязях з грамадскасцю і маркетынгу.***
***Фота: Таццяна Вялёнда.***

# Гарадзенская абласная дыктоўка, прысвечаная 80-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, прайшла ў Лідскім політэхнічным каледжы

У межах святкавання Міжнароднага дня роднай мовы для вучняў, педагагічных работнікаў і іншых супрацоўнікаў 21 лютага 2024 года ў Лідскім дзяржаўным політэхнічным каледжы прайшла Гарадзенская абласная дыктоўка, пісалі тэкст з "Векапомных дзён" Міхася Лынькова.







Другая палова дня была аддадзена пад мастацкую частку. Са сцэны актавай залы гучлі беларускія песні, быў прадстаўлены дыспут паміж Францішкам Скарынам і Міколам Гусоўскім, былі паказаны фрагменты з твораў беларускіх пісьменнікаў К. Крапівы, Я. Купалы.






Адбылася "Сустрэча з пісьменнікам", на якую быў запрошаны паэт Станіслаў Суднік.



Дзень роднай мовы ў політэхнічным каледжы - ужо добрая, сталая традыцыя.

***Наш кар.***

# Міжнародны дзень роднай мовы ў Лідскім музкаледжы

У рамках Тыдня беларускай мовы і літаратуры навучэнцы ўдзельнічалі ў мерапрыемствах, прысвечаных Міжнароднаму дню роднай мовы




Чыталі творы Аркадзя Куляшова, разгадвалі QR-квэсты "Скарбонка роднай мовы" (у гэтым годзе адзначаецца 110 гадоў з дня нараджэння пісьменніка), знаёміліся з цікавымі фактамі з біяграфіі Васіля Быкава (у гэтым годзе адзначаецца 100 гадоў з дня нараджэння пісьменніка). Навучэнцы гуртка "Спадчына" наведалі Домік Таўлая і пазнаёміліся з навуковым супрацоўнікам Алесем Хітруном, які даследуе творчасць заходнебеларус-





кага паэта Валянціна Таўлая.

Навучэнцы напісалі дыктоўку, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы. Пісалі тэкст "Выратавалі мост".

***Наш кар.***

# Дзень роднай мовы ў Лідскім тэхналагічным каледжы

Літаратурная гасцёўня "Які ж гэта цуд - мова твая" прайшла ў інтэрнаце Лідскага тэхналагічнага каледжа.




Падчас мерапрыемства навучэнцы яшчэ раз упэўніліся, што вершы, песні, крылатыя выразы і проста словы на беларускай мове гучаць меладычна і ласкава.



Мерапрыемства было падрыхтавана да Дня роднай мовы.

***Наш кар.***

# Словам родным сэрца сагрэта:
## Тыдзень беларускай мовы на Лідскай зямлі

Штогод у лютым гучыць роднае слова з кожнага кутка Лідскай зямлі. Тыдзень беларускай мовы выступае нагодай для таго, каб дазнацца нешта новае пра беларускую культуру і мову, паглядзець на сябе збоку, адкрыць сваю краіну іншай і ўбачыць у сваёй культуры сапраўдныя каштоўнасці. Сёлета ён праходзіў пад назвай "Лідчына гаворыць па-беларуску".

Мова яднае нацыю, народ і ўсіх людзей, якія пражываюць на тэрыторыі краіны. Кожны чалавек павінен шанаваць сваю мову, традыцыі і культуру свайго народа. Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы стала традыцыйным мерапрыемствам для ўсіх філіялаў ДУК "Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы", вельмі важным святам для супрацоўнікаў, чытачоў, наведвальнікаў бібліятэк і звычайных аматараў беларускай мовы. Усе арганізаваныя мерапрыемствы былі накіраваныя на папулярызацыю і захаванне беларускай мовы.

Шанаванне роднай мовы распачалі ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 2" 16 лютага з мэтай знаёмства з роднай мовай на аснове твораў беларускіх класікаў і сучасных пісьменнікаў. Для ўдзельнікаў клуба "Буслік" прайшоў літаратурны конкурс вершаў "Да роднай мовы крок зрабі". Навучэнцы адказна падрыхтаваліся да мерапрыемства, паказалі сваё майстэрства, арыгінальнасць і эмацыянальнасць у час дэкламавання твораў на роднай мове. А лепшыя з іх былі ўзнагароджаны дыпломамі.



У гэты ж дзень у філіял "Лідская гарадская бібліятэка № 2" завіталі выхаванцы старэйшай групы ДУА "Дзіцячы сад № 22 г. Ліды" на пазнавальную гадзіну "З мовай змалку сябрам будзь!". Падчас пазнавальнай гадзіны, яны спраўна перакладалі словы на родную мову, адказвалі на пытанні, а падтрымліваць цікавасць да беларускай мовы дапамагалі беларускія казкі, загадкі, гульні.




17 лютага ў філіяле "Інтэграваная бібліятэка в. Мінойты" адзначалі Міжнародны дзень роднай мовы. Мерапрыемства праходзіла ў рамках праекта "Залаты ўзрост". Удзельнікі пісалі дыктоўку, тэкст з твора І. Шамякіна "Глыбокая плынь". Пасля народны тэатр "Бераг" КДЦ в. Мінойты запрасіў прыняць удзел у сюжэтнай гульнёвай праграме "Матчына мова". У канцы бібліятэкар правяла конкурс эрудытаў "Ручай крыштальны мовы роднай", дзе трэба было прадоўжыць прыказкі, назваць сінонімы прапанаваным словам, назваць, што сабой уяўляе тая ці іншая страва, па апісанні назваць свята беларускага народнага календара і інш. У канцы - знаёмства з выставай "Чарадзеі роднага слова".



Напярэдадні Дня роднай мовы ў філіяле "Бярозаўская гарадская бібліятэка" былі праведзены гучныя чытанні "Гучы, роднае слова", удзел ў якіх прымалі наведвальнікі аддзяленне дзённага прыбывання інвалідаў г. Бярозаўкі. Напачатку бібліятэкар пазнаёміла прысутных з гісторыяй беларускай мовы і з шляхам яе станаўлення. Пасля прысутныя чыталі беларускія вершы, успомнілі і растлумачылі беларускія прыказкі і прымаўкі, адгадвалі беларускія загадкі-жарты. Скончылася мерапрыемства словамі З. Бядулі: "Шануй сваю мову, шануй свае песні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае - гэта спадчына дзядоў і вялікі нацыянальны скарб".





У філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 3" прайшла гадзіна роднай мовы "Слова да слова - будзе мова". На мерапрыемстве ішла размова пра гісторыю ўзнікнення Міжнароднага дня роднай мовы і аб неабходнасці захавання беларускай мовы. Для дзяцей была праведзена гульня, дзе яны паказалі добрыя веды: пісалі дыктоўку, разгадвалі загадкі і рэбусы, падбіралі розным прадметам беларускія назвы. Мерапрыемства дало магчымасць кожнаму ўдзельніку папоўніць слоўнікавы запас новымі словамі і выразамі.



А дарослыя напісалі дыктоўку па тэксце Міхася Лынькова “Векапомныя дні”.



"Люблю цябе, зямлі бацькоўскай слова" - пад такой назвай 21 лютага ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 1" прайшоў урок беларусазнаўства. Хлопчыкі і дзяўчынкі ДУА "Дзіцячы сад № 7 г.Ліды" слухалі вершы на беларускай мове, адгадвалі загадкі, расказвалі прыказкі і прымаўкі, удзельнічалі ў віктарынах, здзейснілі падарожжа ў гісторыю Міжнароднага дня роднай мовы. Асаблівую ўвагу наведвальнікаў бібліятэкары звярнулі на кніжную выставу "З легендаў і казак… ты выткана, родная мова!", якая раскрыла юным чытачам асаблівасці беларускай мовы і яе паходжанне. Менавіта ў мове захавана гісторыя нашага народа, моц і прыгажосць народнага слова.




Тым жа днём у філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 4" адбыўся турнір знаўцаў роднай мовы "Знаёмая мова, чароўны радок!" сумеснa з аддзяленнем сацыяльнай рэабілітацыі, абілітацыі інвалідаў ДУ

"ЛРТЦСАН" у рамках сацыяльнага праекта "Свет адзін на ўсіх". З цікавасцю прысутныя слухалі гісторыю заснавання Міжнароднага дня роднай мовы, удзельнічалі ў перакладзе слоў, адказвалі на пытанні віктарыны "Знатакі роднай мовы", дэкламавалі прыгожыя беларускія вершы, зачытваючы ўрыўкі з твораў беларускай літаратурнай спадчыны. Да мерапрыемства была падрыхтавана кніжная выстава "Рускай мове дай разгрузку: размаўляй па-беларуску".



Бібліятэкар філіяла "Інтэграваная бібліятэка агр. Дворышча" была запрошана для правядзення дыктоўкі для вучняў 9 класа ДУА "Дварышчанская сярэдняя школа" ў Міжнародны дзень роднай мовы. Тэкстам для напісання быў абраны ўрывак з твора В. Быкава "Знак бяды" і быў прымеркаваны да 80-годдзя з дня вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



Літаратурная гасцёўня "Любім і ведаем родную мову" прайшла ў філіяле "Лідская гарадская бібліятэка № 6". На свята роднай мовы завіталі людзі розных прафесій і ўзросту, шмат было людзей, якія скончылі школу сорак і больш гадоў таму. Для прысутных у гэтым годзе была прапанавана дыктоўка - урывак з рамана "Векапомныя дні". Пасля напісання дыктоўкі ўдзельнікі выразілі жаданне пачытаць вершы на роднай мове. Для прысутных быў арганізаваны стол з гарбатай з беларускіх траў і салодкімі пачастункамі.



Супрацоўнікі філіяла "Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка" падрыхтавалі літаратурна-пазнавальную скарбонку "Сябруй з роднай мовай!", удзельнікамі якой сталі дзеці з прышкольных лагераў ДУА "Сярэдняя школа №5 г. Ліды" і ДУА "Сярэдняя школа №15 г. Ліды". Дзяцей чакала чарадзейная скарбонка з заданнямі "Дапоўні беларускім словам", "Загадкі", "Перакладчыкі". Дзеці пазнаёміліся з беларускімі казкамі, даведаліся пра тое, якімі яны бываюць, паслухалі аўдыё-казку "Як курачка пеўніка ратавала". Свае пачуцці да роднай мовы, дзеці паказалі ў гульні "Якая мая мова".







З мэтай абуджэння цікавасці да беларускай мовы і літаратуры, выхавання пачуцця гонару за родную мову і паважлівых адносін да яе ў філіяле "Інтэграваная бібліятэка агр. Крупава" прайшла гадзіна роднай мовы "У родным слове - цэлы свет". Разам з бібліятэкарам школьнікі ўзгадалі паходжанне роднай мовы і паразважалі аб яе

выкарыстанні ў сучаснасці, пазнаёміліся з лепшымі творамі класікаў і сучасных аўтараў беларускай літаратуры, успомнілі беларускія прыказкі і прымаўкі, загадкі і жарты. А таксама пачыталі вершы на роднай мове.

Гэты дзень у нашай краіне - свята, якое нагадвае кожнаму з нас, што без роднай мовы немагчыма адчуваць сябе паўнавартасным грамадзянінам, часткай свайго народа. У гэты дзень у філіяле "Інтэграваная бібліятэка агр. Гуды" прайшла гадзіна роднай мовы "Мы чытаем па-беларуску". На мерапрыемстве прысутныя зачытвалі ўрыўкі з твораў беларускіх аўтараў на роднай мове, пісалі дыктоўку, тэкстам для якой быў абраны ўрывак з твора Івана Шамякіна "Глыбокая плынь". Напрыканцы сустрэчы прысутныя прыйшлі да высновы, што мова - наш найдаражэйшы скарб, які мы павінны не толькі зберагчы для нашых нашчадкаў, але і памножыць.



У Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы 21 лютага ладзілася паэтычная хвілінка "Гучанне слоў жывых". На мерапрыемстве прысутнічалі паэты, пісьменнікі і аматары пісьменства Лідчыны. Гэтая сустрэча стала нагодай яшчэ раз задумацца пра лёс той, адзінай, якую завём матчынай, яшчэ раз узгадаць гістарычны





шлях нашай мовы, паслухаць вершы. Удзельнікі таксама напісалі агульнанацыянальную дыктоўку, праверылі узровень валодання нормамі літаратурнай мовы, адчулі энергію і самабытнасць беларускага слова, прадэманстравалі сваю любоў і павагу да роднай краіны.

У той жа дзень у Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы напісалі дыктоўку сябры літаб’яднання “Суквецце” пры “Лідскай газеце”. Тэкст з кнігі Уладзіміра Карпава “Далёкія зарніцы” чытаў паэт і празаік, навуковы супрацоўнік аб’екта “Дом Таўлая” Алесь Хітрун.



І гэта толькі частка яскравых і найцікавейшых мерапрыемстваў, якія прайшлі ва ўтульных залах бібліятэк Лідчыны, супрацоўнікі якіх упэўнены, што мерапрыемствы, прысвечаныя роднай мове, нікога не пакінулі абыякавымі, і яны змаглі данесці да ўсіх тое асноўнае, што трэба ведаць і любіць - "зямлі бацькоўскай слова". Праведзеныя мерапрыемствы дазволілі перажыць моцныя пачуцці радасці і гонару за сваю Радзіму, пераканацца, што родная мова - бясцэнны скарб, якім усе павінны ганарыцца і які павінны шанаваць.

*Бібліятэкар*
*аддзела бібліятэчнага маркетынгу*
*Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы*
*К.С. Сандакова.*

# Пішам па-беларуску: у Нясвіжы прайшла дыктоўка па беларускай мове

Шмат гадоў у Міжнародны дзень роднай мовы ў Беларусі праводзіцца Рэспубліканская дыктоўка па беларускай мове. Не стала выключэннем і Нясвіжская цэнтральная раённая бібліятэка. 21 лютага тут сабраліся жыхары Нясвіжчыны рознага ўзросту, каб разам паглыбіцца ў прыгажосць роднага слова. Сярод іх - вучні сярэдняй школы № 1 г. Нясвіжа, сябры раённага літаратурна-музычнага аб'яднання "Валошкі" і іншыя неабыякавыя.



У ролі дыктара выступіла член Саюза пісьменнікаў Беларусі, член міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў і публіцыстаў Зоя Кулік.




Як адзначыла Зоя Мікалаеўна, вельмі прыемна бачыць столькі ўдзельнікаў гэтай штогадовай падзеі.

- Насамрэч, сённяшні дзень - святочны не толькі для беларускай мовы, - адзначыла пісьменніца . - Дата была абрана як дата памяці падзеям 1952 года, калі ў сталіцы Бангладэш ад куль паліцэйскіх загінулі студэнты - ўдзельнікі дэманстрацыі ў абарону роднай мовы. Студэнты патрабавалі прызнаць мову бенгалі адной з дзяржаўных моваў краіны. У лютым 2000 года Генеральная асамблея Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, падкрэсліўшы важнасць культурнай і моўнай разнастайнасці, падтрымала рашэнне ЮНЕСКА аб абвяшчэнні Міжнароднага дня роднай мовы і заклікала ўсе дзяржавы спрыяць абароне і захаванню моў народаў свету. На сённяшні дзень у свеце налічваецца каля 6 тысяч моў, але, паводле звестак ЮНЕСКА, у бліжэйшы час 43 % з іх можа знікнуць, страціўшы апошніх носьбітаў. І мы святкуем Дзень роднай мовы, таму што не хочам, каб наша беларуская мова знікла.

Тэкст, які быў абраны для дыктоўкі сёлета, расказваў пра асноўныя беларускія сімвалы. Як зазначылі ўдзельнікі дыктоўкі, усё прайшло вельмі добра.

- Я другі год прымаю ўдзел у дыктоўцы, - падзялілася ўражаннямі Марыя Падамацька . - І вельмі добра, дарэчы, тады напісала. Я люблю беларускую мову, таму ніякай асаблівай боязі не адчувала. У мяне выходзіла кніга з творамі і на рускай, і на беларускай мове. Мне нават самой больш падабаюцца свае празаічныя тэксты, якія я пісала на роднай мове. Я лічу, што моладзі трэба ведаць беларускую мову. Размаўляць не на трасянцы а на прыгожай роднай мове.



Добра сябе адчувалі падчас сустрэчы і маладыя людзі.

- Я ўпершыню прымала ўдзел у дыктоўцы - расказвае вучаніца 9 класа СШ № 1 г. Нясвіжа Ангяліна Картаполава. - І мне вельмі спадабалася. Вядома, чаканні былі, я прагназавала, што тэкст будзе пра нашу краіну - так яно і адбылося. Калі казаць, пра што хацелася напісаць, то, мабыць, пра прыгажосць нашай прыроды. Наконт складанасці - я хвалявалася, што ён будзе больш цяжкі. Але насамрэч было лягчэй, чым чакала.

Моўная разнастайнасць сёння - велізарны здабытак спадчыны і непаўторны вынік творчасці чалавека. Мова забяспечвае непарыўную сувязь паміж яе носьбітамі, паміж мінулым, сапраўдным і будучыняй. Таму, каб аднойчы беларуская мова не перастана існаваць - "Не пакідайце мовы нашай, каб не ўмёрлі!".

***Неаніла ЛЮБАНЕЦ.***

*https://www.nesvizh-news.by/2024/02/21/pisham-pa-belarusku-u-nyasvizhy-prajshla-dyktoўka-pa-belaruskaj-move/*





# Дыялог бібліятэкараў аб будучыні бібліятэк

27 лютага ў Менскай абласной бібліятэцы імя Пушкіна праходзіў Міжнародны навукова-практычны семінар "Бібліятэка як сацыя-камунікатыўны інстытут грамадства". На ім абмяркоўваліся пытанні развіцця дызайну бібліятэчнай прасторы, рэалізацыі бібліятэчных праектаў, прысвечаных знаным літаратарам, арганізацыі выставачнай дзейнасці, развіццю сямейнага чытання, заахвочвання чытачоў да сацыякультурнай дзейнасці і наведвання бібліятэк.

Загадчыца аддзелам бібліятэказнаўства Таццяна Анатольеўна Лаўрык распавяла пра ажыццяўленне ў 2022-23 гадах праекта "Пісьменнікі роднага краю" сумесна з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, Саюзам пісьменнікаў Беларусі, выдавецтвам "Мастацкая літаратура", Тэатрам юнага гледача, газетамі "ЛіМ" і " Звязда".



З мэтай папулярызацыі творчасці Кузьмы Чорнага, Максіма Багдановіча, Язэпа Пушчы, Алеся Бачылы і іншых пісьменнікаў. Даследчыца паведаміла пра стварэнне віртуальнага музея М. Багдановіча на базе Менскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна, пра адкрыццё віртуальнага музея В. Віткі ў Слуцкай раённай бібліятэцы, віртуальнага музея Язэпа Пушчы на сайце www. planetabelarus.by. Паспяхова праходзіў Міжнародны анлайн-конкурс чытальнікаў "Пад зоркай Венеры" ў сакавіку 2023 года.



Загадчыца аддзелам маркетынга сацыякультурнай дзейнасці Наталля Жаркевіч расказала пра выставачную дзейнасць Менскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна. Марына Іванова паведаміла пра развіццё арт-прасторы сучасных бібліятэк.




Дырэктар Ленінградскай абласной бібліятэкі Ірына Віктараўна Сямёнава паведаміла пра Усерасійскі конкурс "Самы чытаючы рэгіён". Прагучала цікавая інфармацыя пра Усерасійскі фестываль "Літаратура і кіно" ў Гатчыне. Абмен інфармацыяй і досведам быў цікавы і карысны.

***Э. Дзвінская.***
*Фота аўтара.*





*Леанід Лаўрэш*

# Цэрквы горада Ліды да пачатку XIX ст.

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднімм нумары.)*

Імя аднаго з лідскіх святароў сярэдзіны XVII ст., Філона Круковіча, мы даведваемся з матэрыялаў судовай справы, якая слухалася 18 снежня 1647 г. у Галоўным трыбунале Вялікага Княства Літоўскага ў сувязі са спрэчкай вакол маёнтка Вялікая Крупа. Трыбунал прысудзіў тады Марцінау і Івану Палонскіх выплаціць Філону Круковічу доўг і пяню ў памеры 618 коп літоўскіх грошаў[34]. На жаль, Філон Крукоўскі ўказаны проста як *"презбитер церкви Лидское"*, без удакладнення, пра якую царкву ідзе гаворка.

Пра стан аднаўленых у другой палове XVII ст. лідскіх цэркваў можна даведацца з акта візітацыі 1681 г. У горадзе мелася дзве царквы, адна *"пад вызнаннем св. Мікалая, каля рынку даўнейшага і іншая на прадмесці, на пляцы для цэркваў святлейшай фундацыі Каралёў Ягамосцяў"* [35], на прадмесці - царква Прачыстай. Каралеўскі фундуш загінуў падчас вайны, ці як напісана ў акце візітацыі падчас *"маскоўшчыны"*, аб чым пасля вайны зроблены запіс у кнігах Лідскага гродскага суда.

Парахам[36] лідскім і адзіным святаром гэтых дзвюх цэркваў быў Якуб Казлоўскі, прычым пра царкву на Зарэччы напісана, што ў ёй *"ніякага парадку няма і набажэнства бывае не часта"* [37]. Абедзве цэрквы былі драўлянымі і вельмі беднымі, толькі царква св. Мікалая была *"абразамі аздоблена"* [38]. Канешне ж, немагчыма ўявіць царкву ўсходняга абраду без абразоў, і таму можна меркаваць, што ў царкве Прачыстай яны былі зусім нізкай якасці.

З акта бачна, што царква св. Мікалая мела сігнатурку з малым звонам[39] і званіцу з больш вялікім звонам. У актах візітацыі звычайна паведамлялася пра царкоўныя купалы і ўказваліся ўсе жалезныя рэчы ў царкве і парафіяльных пабудовах (завесы, зашчапкі і інш.), бо жалезныя рэчы ў той час мелі вялікі кошт. У нашым выпадку пра купалы ці жалезны рыштунак абедзвюх цэркваў нічога не напісана, таму можна зрабіць выснову, што гэта былі вельмі простыя і танныя пабудовы.

З царквы св. Мікалая была скрадзена дараносіца, а адзіная каштоўная рэч - *"келіх срэбны пазалочаны сучасным святаром закладзены ў Вільні. Загадваем, пад строгай карай, каб быў як найхутчэй выкуплены"*, - пісаў візітатар. Наогул, царкоўнага начыння для богаслужэння і святарскага адзення мелася мала і яно было таннае. Тым не менш царква мела Антыміс Мітрапаліта Календы, прэзентаваны самім мітрапалітам, які яго і асвяціў, а папярэдні святар набыў (Календа памёр у 1674 г.)[41].

Цэрквы мелі неабходны камплект кніг для службы ва ўсходнім абрадзе, але чамусьці ў пераліку царкоўных дакументаў адсутнічаюць спісы парафіян і метрычныя кнігі.

Пры царкве св. Мікалая стаяла *"плябанія - белая хата, коштам самога айца пабудаваная"*, а таксама яшчэ *"хата чорная з сенямі, гумно, хлеў з хросту"* [42]. З боку рынку пры царкве св. Мікалая стаяў шпіталь, што кажа пра тое, што лідскія ўніяцкія цэрквы выконвалі свае сацыяльныя абавязкі.

Акрамя святара пры царкве былі два званары. Абедзве лідскія цэрквы мелі зямлю і двух прыгонных - *"агароднікаў"*, што кажа пра невялікую колькасць царкоўнай зямлі.

У XVI ст. адбыўся масавы пераход былых праваслаўных у пратэстанцтва, прычым першымі тут былі больш вышэйшыя сацыяльныя пласты - шляхта і гараджане. А контррэфармацыя і вайна сярэдзіны XVII ст. прывяла да масавага пераходу былых пратэстантаў у рыма-католікі, і лідская царква амаль што страціла гарадскіх прыхаджан. Таму дзве лідскія царквы ў горадзе і навакольных вёсках мелі ўсяго 330 вернікаў[43].

*"Падымны рэестр Віленскага ваяводства 1690 г." падае, што "празбітар тамтэйшай царквы"* лідскай меў 1 дым[44].

[34] Акты, издаваемые Виленской комиссией для разбора древних актов. Декреты Главного Литовского трибунала. Т. 15. Вильна, 1888. С. 38-39.

[35] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[36] Парах - святар які мае паўнаважанні стала кіраваць парафіяй (прыходам).

[37] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[38] Тамсама.

[39] Сігнатурка (лац.: signatura - подпіс, ад лац.: signo - паказваю, пазначаюць) - невялікая вежачка (звычайна са звонам, які таксама завецца сігнатуркай), якая узвышалася над прэзбітэрыем.

[40] Архіў Жыровіцкай семінарыі. Архіў Лідскага благачыння. Ф. 1. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 117.

[41] Тамсама.

[42] Тамсама.

[43] Тамсама.

[44] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 211.



У 1702 г. і 1710 г. Ліду спалілі шведы. Таму ў 1717 г. Вальны сойм Рэчы Паспалітай зноў вызваліў горад ад падаткаў, а таксама пацвердзіў яго старыя прывілеі.

У другой палове XVIII ст. Ліда інтэнсіўна развіваецца. У 1765-1770 гг. паўстаў новы мураваны касцёл - фарны, пабудаваны замест старога драўлянага. Недзе тады ж на Рынкавай плошчы пабудавалі мураваную ратушу, упрыгожаную порцікам з калонамі. Пры ратушы існавала старадаўняя драўляная пабудова, выкананая ў гатычным стылі.

Лепшы знаўца нашай гісторыі Міхал Шымялевіч пісаў: *"Пад канец XVIII ст. хрысціянскія могілкі горада Ліды знаходзіліся на ўзгорку паміж вуліцамі Гражыны, Вызвалення, Гарыстай. Тут, над старым млынарскім ставам, стаяла драўляная ўніяцкая царква Уваскрэсення Гасподняга, пабудаваная з дрэва, разабранага ў 1765 г., парафіяльнага касцёла, пры царкве знаходзіўся шпіталь для ўбогіх, г. з. прытулак"* [45]. З іншай крыніцы вядома, што ў 1765 г. з дрэва разабранага старога фарнага касцёла, *("як кажуць, яшчэ ў добрым для сценаў")*, пабудавалі новую ўніяцкую царкву[46].

У "Вопісе парафій Лідскага дэканата ў 1784 г." запісана, што на Зарэччы існуе *"карчма старасты лідскага, прадмесце і плябанія ўніяцкая (ritus graci uniti)"* [47].

Зразумела, што новая царква Уваскрэсення Гасподняга была пабудавана на пляцоўцы былой Прачысценскай царквы і на карце канца XVIII ст. бачна, што гэта царква мела форму падвойнага крыжа.

На гэтым старым, намоленым царкоўным пляцы меліся прыходскія могілкі, жыхарка горада Я. Ярмант пісала ў мемуарах пра сваё жыццё ў 1930-я гг.: *"Наш дом знаходзіўся ніжэй вуліцы Вызвалення (цяпер Калініна), калісьці на гэтым месцы былі могілкі, бо ў агародзе знаходзілі чалавечыя косці"* [48].

Лідзянін XIX ст. Нікадзім Сегень, які пабудаваў дом недалёка ад гэтай былой царквы, гэтак апісаў сваё наваколле: *"Сырасць Дзяканкі, відаць, непакоіла Нікадзіма* (тут стаяў ранейшы дом Сегеняў - *Л. Л.*), *бо ён купіў кавалак сухой пясчанай зямлі на так званай "Горцы". Гэтыя землі нядаўна былі далучаны да гарадскога раёна "Зарэчча". Да гэтага, тут, на "Горцы", доўгі час мелася пляцоўка для вывучкі казакоў, якія стаялі ў горадзе.*

*У яшчэ ранейшыя часы на "Горцы" мусілі быць могілкі, бо там (у значнай глыбіні) часта выкопваліся чалавечыя косткі.*

*Набыты Нікадзімам участак зямлі прылягаў да дзвюх яшчэ нядаўна пазначаных вуліц: Мастоўскай (былая дарога на хутар Мастоўшчына ) і Гарыстай, якая вяла ад млына да дарогі "на Ліпнішкі"* (зараз перакрыжаванне вуліц Чарнышэўскага і Стралкоўскага - *Л.Л.*). *Ля падножжа замка размяшчаўся вадзяны млын з вялікай сажалкай. Вуглавое размяшчэнне пляца пад дом Нікадзіма было вельмі зручным для будучага падзелу дома паміж дзецьмі, бо дазваляла кожнаму мець добрую будаўнічую пляцоўку з выхадам на вуліцу"* [50].

Знакаміты віленскі гісторык Іяхім Лелявель, у 1805 г. вандруючы праз Ліду, занатаваў: *"Ліда - мураваны горад з драўлянымі сценамі*[51]. *Тут ёсць толькі мураваныя касцёлы, з іх піярскі касцёл ужо 6 гадоў як накрыўся дахам і белым пакрыццём*[52]. *Апрача гэтых двух з паловай касцёлаў*[53] *ёсць яшчэ замак з чатырма высокімі сценамі, якія сведчаць што Ліда была горадам літоўскіх князёў і мела здольнасць да абароны. Па рагах замка стаяць разваленыя вежы, з трох бакоў замка цячэ рака Лідзея*[54], *а за замкам - драўляная пустая царква* (Уваскрэсення Гасподняга - *Л. Л.*)" [55].

У 30-х гадах XIX ст. царкву Уваскрэсення Гасподняга на Зарэччы зруйнавала бура[56].

Вызначаныя сучасным метадам каардынаты пляцоўкі меркаванай царквы св. Яна - Прачысценскай - а потым Уваскрэсення Гасподняга: 53.886184832612535, 25.30730971739487 [57].

У актах візітацый канца XVIII ст. на месцы царквы св. Мікалая знаходзіцца ўжо царква пад тытулам Міхала Арханёла. Пазначана царква і на карце горада, напрыклад,

---

[45] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 216.

[46] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 103.

[47] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Bialystok, 2004. S.70.

[48] Ярмонт Е. В тени замка Гедимина. Лида, 1995. С. 38.

[49] На ўсходняй ускраіне Зарэчча яшчэ ў першай палове XX-га ст. існаваў невялікі засценак "Мастоўшчына", потым ён стаў лічыцца фальваркам.

[50] Архіў аўтара.

[51] Гэтая метафара Лелявеля кажа пра наяўнасць мураванага замка з касцёламі ў цалкам драўляным горадзе.

[52] Верагодна, маецца на ўвазе белы тынк.

[53] Касцёлы: фарны, кармеліцкі і трэці, недабудаваны, піярскі - адсюль "два з паловай касцёлы".

[54] Насамрэч рэкі Лідзея і Каменка.

[55] Listy Joachima Lelewela : oddzial pierwszy: listy do rodzenstwa pisane. Poznan, 1878. T. 1. S. 44.

[56] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 37-57.

[57] Лаўрэш Леанід. Дзе і што археолагам шукаць у Лідзе // Лідскі Летапісец. 2023. № 3 (103). С. 36-41.

на карце канца XVIII ст, надрукаванай у кнізе В. А. Чантурыі "Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.", царква пад тытулам Міхала Арханёла стаяла каля кляштара піяраў; насупраць яе, праз Віленскую вуліцу, мелася сінагога[58]. Пры канцы XVIII ст. - на пачатку XIX ст. горад




***Цэнтр горада ў XVIII ст. з уніяцкай царквой. Карта з кнігі Чантурыя Ю. В. "Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.". 3 - фарны касцёл, 4- ратуша, 5 - грэка-каталіцкая царква Міхала Арханёла, 6 - касцёл піяраў, 7 - кармеліцкі касцёл, 8 - сінагога***

меў два цэнтры, размешчаныя на восі, якой была вуліца Віленская. У адным цэнтры знаходзіўся замак, фарны касцёл, кляштар кармелітаў, у другім - ратуша, сінагога, уніяцкая царква Міхала Арханёла і кляштар піяраў[59].

Царква Міхала Арханёла з'явілася ў выніку аднаўлення і першасвячэння былой царквы св. Мікалая, бо пры канцы XVIII ст. драўляная царква пад тытулам Міхала Арханёла была ўжо ў дрэнным стане. Царква была пабудавана на падмурку, крытая гонтай, мела фацыяту[60] і купал з жалезным крыжам па-над царквой[61], акрамя вялікага купала, меўся яшчэ і *"другі малы купал з крыжам жалезным"* [62]. На карце канца XVIII ст. бачна, што царква Міхала Арханёла мела форму крыжа.

Тут трэба адзначыць, што купалы ўніяцкіх цэркваў не мелі цыбулепадобнага выгляду, як маскоўскія цэрквы. Пачынаючы з сярэдзіны XVIII ст. нашы цэрквы мелі фігурныя грушападобныя гранёныя купалы, якія зваліся "бані" ці "банькі" [63], у залежнасці ад памераў. Так называецца купальнае пакрыццё паўкруглай формы або круглы купал у завяршэнні вежаў ці вярхоў. У адрозненне ад гладкіх купалоў-цыбулін усходніх праваслаўных храмаў, банькі мелі складаны сілуэт і падзел на грані, "банькі" рабілі шмат'яруснымі, на васьміграннных і шасціграннных шыйках, што стварала кантрасныя светлаценевыя эфекты.

У 1784 г. у царкоўным архіве захоўваўся фундуш вялікіх князёў ВКЛ 1524 г. і фундуш на юрыдыку[64] ў г. Лідзе пад назвай Папоўшчына, падпісаны мітрапалітамі Антонам Сялявам 4 ліпеня 1644 г. і Львом Кішкам 4 ліпеня 1717 г. у маёнтку Рута Навагрудскага павета[65]. У 1784 г. юрыдыку арандаваў яўрэй Ісак Ёселевіч, плацячы штогод 8 злотых 15 грошаў[66]. У 1792 г. юрыдыка пустая, "*падлеглая заняпаду*" [67].

Пры царкве св. Міхала меўся шпіталь і пабудовы плябаніі: хата святара з каморай, пякарня, клець (амбар), гумно, хлеў. Плябанія *"часткова плотам, а часткова жэрдкай агароджана, з брамай, стараннем двара і святароў пабудаванай"* [68]. Дарэчы, наяўнасць брамы - прыкмета багатай парафіі, таму ў акце візітацыі запісана, чыім стараннем яна пабудавана. Тут жа каля царквы знаходзіліся старажытныя могілкі: *"Пляц, дзе пабудаваны*

[58] Чантурия Ю. В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Минск, 2005. С. 51.

[59] Чантурия Ю. В. Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI - первой половины XIX в.: Средневековое наследие, Ренессанс, барокко, классицизм. Минск, 2005. С. 51.

[60] Фацыята - паддашак, мансарда.

[61] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. ... Арк. 35.

[62] Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Візіты цэркваў Лідскага і Слонімскага Дэканата. 1784 г. Арк. 85.

[63] Назва паходзіць ад лацінскага слова baneum (так зваўся пуката-ўвагнуты посуд, якім карысталіся для абмывання ў тэрмах і купальнях, пазней - у баптыстэрыях пры абрадзе хрышчэння.

[64] Юрыдыка - частка горада, якая падпарадкоўвалася феадалу і на жыхароў якой не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада магістрату.

[65] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 86 адв.

[66] Тамсама. Арк. 96 адв.

[67] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. ... Арк. 36.

[68] Тамсама. Арк. 35 адв.

*царква са шпіталем і дзе знаходзяцца могілкі мае паўтара морга"* [69].

Пры капітальным рамонце вуліцы Сувальскай (першасная назва - Віленская, зараз - Савецкая) і пракладцы тэлефонных кабеляў да будаванай у той час новай пошты па вуліцы Міцкевіча, у 1937 г. тут знойдзены парэшткі XVIII ст. *"лідскіх месцічаў, якія былі пахаваны на могілках пры ўніяцкай царкве, якая згарэла ў першай палове XVIII ст. ... . Потым праваслаўныя святары прадалі пляц былых могілак каля царквы пад участкі для будаўніцтва, і тут былі пабудаваны дробныя крамы"*[70].

10 кастрычніка 1865 г., падчас асвячэння праваслаўнай царквы ў Шчучыне, святар Віленскага Кафедральнага сабора а. Антон Пшчолка сказаў, што царква Міхала Арханёла была разбурана ў 1818 г., але *"сваё імя, якое народ не забыў, перадала нядаўна ўстроенай праваслаўнай царкве"* [71] (маецца на ўвазе сучасны сабор, перабудаваны з касцёла піяраў і асвечаны як праваслаўны 18 жніўня 1863 г. па старым стылі[72]). У дадзеным выпадку, няма рацыі не верыць Пшчолку, бо ён кажа пра падзеі, якія адбыліся за 2 гады да яго прамовы і, відочна, што такая спадчыннасць паміж цэрквамі была відавочнай для сучаснікаў. На карце горада 1842 г. былой уніяцкай царквы ўжо няма, але памяць пра яе захавалася ў назве сучаснай праваслаўнай царквы.

Каардынаты пляцоўкі цэркваў св. Мікалая і Міхала Арханёла (і магчыма св. Спаса): 53.89332136298254, 25.303711884679984[73].

Паводле дакументаў Архіва ўніяцкіх мітрапалітаў, якія з часоў ліквідацыі ўніяцкай царквы на Беларусі захоўваецца ў Санкт-Пецярбургу, у 1743 г. Лідскі ўніяцкі дэканат заплаціў мітрапаліту штогадовы падатак на ўтрыманне свайго епіскапа і кафедральнай царквы "cathedraticum" у памеры 60 злотых, Ашмянскі - 154 злотыя, Мядзельскі - 104 злотыя. З улікам памеру падатку, відно, што ў Лідскім павеце ўніятаў было меней, чым на Ашмяншчыне і Мядзельшчыне, бо было больш рыма-католікаў[74]. У 1747 г. з кожнага "каплана" неабходна было заплаціць мітрапаліту *"по одному битому талеру"*. Лідскі павет заплаціў тады 12 талераў[75], што сведчыць аб такой жа колькасці ўніяцкіх святароў на Лідчыне. Адзін з іх - лідскі "парах" Антоні Марцінеўскі, пра якога вядома, што ён у тым жа годзе няправільна, без споведзі і абвяшчэнняў, павянчаў шлюб[76].

У параўнанні з канцом XVII ст. у прыходзе павялічылася колькасць вёсак, але ў самім горадзе ўніятаў амаль што няма. Колькасць прыхаджан у 1792 г. 608 чалавек[77]. Нягледзячы на наяўнасць уязной брамы, па класіфікацыі беларускага гісторыка Д. Лісейчыкава, лідская плябанія адносілася да бедных, бо не мела варыўні, аборы, пуні, лазні, бровара і г.д.[78].

З-за дрэннага стану царквы ў канцы XVIII ст. царкоўныя ўлады верагодна прынялі рашэнне перавесці святара з Ліды на сталае жыхарства ў вёску Дакудава і адчыніць да гэтага часу нячынныя капліцы ў Ольжаве і Курасеўшчыне (Карасеева, Korosieiow)[79]. У "Вопісе парафій Лідскага дэканата ў 1784 г." капліца ў Курасеўшчыне фігуруе як капліца ў Навіцкіх: *"Навіцкія, вёска, уніяцкая капліца (ritus graci uniti) і карчма васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага"* [80]. Старая драўляная капліца ў Курасеўшчыне існавала яшчэ ў 1830-х гг.[81]

У акце візітацыі 1784 г. ёсць апісанне капліцы ў Ольжаве: *"На зямлі вяльможных ягамосцяў паноў Гінетаў крайчых Лідскіх*[82] *... У Ольжаве. Драўляная, гонтай крытая, на падмурку, асвечаная. Гэтага асвячэння сакрамант быў презентаваны. ... досыць мае апаратаў, якія ёсць падчас візіты. ... капліца пабудавана, за кошт .... у Яна Бялькевіча, сурагатара Гарадзенскага*[83]*, 2 жніўня 1764 г. ахвяравана Лідскай парафіяльнай царкве."* [84]

Такім чынам лідскія ўніяты маліліся ў Ольжаўскай капліцы, і таму ў момант скасавання ўніяцкай царквы, праваслаўныя вернікі засталіся без свайго будынка ў Лідзе.

---

[69] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 86-86 адв.
[70] Slowo № 268 (4832) 28 wrzesnia 1937.
[71] ЛЕВ. 1865. № 23. С. 929.
[72] ЛЕВ. 1863. №17. С. 629-632.
[73] Лаўрэш Леанід. Дзе і што археолагам шукаць у Лідзе. С. 36-41.
[74] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 84.
[75] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 118.
[76] Там жа. С. 116.
[77] НГАБ. Ф.136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 35 адв.
[78] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. С. 66.
[79] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 36 адв.
[80] Rybak Andrzej. Dekanat lidzki w 1784 roku w swietle opisow parafii. Bialystok, 2004. S.67.
[81] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. 1907. № 8. С. 165.
[82] У 1788 г. Ян Гінет - Лідскі крайчы. Гл. Herbarz polski Kaspra Niesieckiego, S. J. Powiekszony dodatkami ..., T. 4. Lipsk. 1839. S. 118.
[83] Ілія Бялкевіч - гарадзенскі сурагатар, парах скідзельскі. Гл. Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 124.
[84] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127.





*у Маскве, і аргенцінскі шафёр - шчыра скажам, віртуозны шафёр - павінен сам клапаціцца, каб на кагосьці не наехаць, вось галоўнае правіла руху".*

Літ.:

*2172 Шэрман К. Маці мовы // Містраль Г. Ветраліст: лірыка / пер. з ісп. Р. Барадуліна; уклад., прадм., заўв. і рэд. пер. К. Шэрмана. Мн., 1984. С. 3-10.*

*3296 Шэрман К. Маці мовы // Шэрман К. Таямніцы почырку: літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ. Мн., 1995. С. 38-43.*

*2173 Шэрман К. На добрае знаёмства // Тытунёвая кветка: анталогія сучаснай кубінскай паэзіі: пер. з ісп.. Мн., 1986. С. 5-7.*

de cabellos lacios y pies campesinos,
descalza, en combinación
celeste, desteñida y corta,
que revelaba la cera amarillenta
de las rodillas abiertas.

A los siete años y medio
que tenía
no pude asimilar
la beldad del embarazo,
tal vez porque el medio perfil
miraba a un punto lejano
con la amargura
de la chica provinciana
que vino a la ciudad
y la seguía le pisaba los talones
con su aliento de hambre,
tal vez porque fuera engañada
y nos despreciara,
no sé ni lo sabré nunca,
yo llegaba a la puerta del taller
y no podía entrar
a pintar el embarazo
con el alma fría
y seguía de largo
con el caballete portátil al hombro
por esas calles y callejuelas
que desembocaban en casa
después de muchas horas,
con las sombras de la tarde.
Con tanta avidez absorbí la ciudad,
que hoy puedo llevarlo al lugar
más recóndito con los ojos vendados.
Un día mi hermana
dio con el pintor amigo
y le preguntó:
— ¿Qué tal Carlos? ...
Aquella vez ella volvió tarde,

***Carlos Sherman's verses in Spanish, p. "11" (12) of "14" [13]***

*3294 Шэрман К. "Наш Пабла" // Шэрман К. Таямніцы почырку: літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ.. Мн., 1995. С. 18-24.*

*3304 Шэрман К. Аргенціна: вяртанне праз паўжыцця // Шэрман К. Таямніцы почырку: літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ. Мн., 1995. С. 140-188.*

*2170 Шэрман К. Аргенціна: вяртанне праз паўжыцця // Полымя. 1990. № 3. С. 103-130.*

*6309 Шерман К. Стороны света: поэма / пер. на рус. И. Бурсова // Шэрман К. = Sherman C. Los puntos cardinales - Накірункі свету - Cardinal Points - Стороны света / пер. з ісп. Р. Барадуліна, В. Рыч, І. Бурсава. Мн., 2000. С. 71-95.*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou*** *(e-mail: baicri@tut.by),*
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenas, indios de America у Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 87].***

# "ДУРАЛЕСІЦА" ад мастоўскага сатырыка Язэпа Палубяткі




Пабачыла свет чарговая кніга вядомага ўжо сатырыка з Мастоў Язэпа Палубяткі.

У аповесці занатаваны адны суткі шматграннага і змястоўнага жыцця невялікага беларускага гарадка ў канцы Перабудовы, якую паспяхова праводзіла ў краіне жывая яшчэ Камуністычная партыя. Гэта трэці том "Сатырычнай гісторыі Беларусі", але па часе аповесць "Дуралесіца" просіцца быць томам першым у колішнім "Поўным зборы твораў" Язэпа Палубяткі, які не толькі бачыў усё, што напісана, але і быў знаёмы з многімі героямі аповесці, а з некаторымі, што тут хаваць, і чарку браў, і чуў з першых вуснаў усе самыя інтымныя і дакладныя дэталі апісаных падзей.

Сёлета чакаецца выхад яшчэ адной аповесці. Гэта мае быць "Вялікая жнівеньская".

***Наш кар.***



# На балі ў Тызенгаўза

Народная студыя гісторыі і мастацтва эпохі Сярэднявечча і ранняга Рэнесансу "Дама сэрца" (Domina cordis) Лідскага раённага цэнтра культуры прыняла ўдзел у вясеннім балі ў Тызенгаўза, які прысвечаны жанчыне. Адбылося мерапрыемства ў Дзятлаўскім цэнтры культуры.

Гэта быў сапраўдны свецкі прыём з танцамі, музыкай, гульнямі. Было элегантна, вытанчана, прыгожа і вельмі па-жаноцку!



А з эпохі "позняга Рэнесансу" іх падтрымалі сям'я Парфенчыкаў з Бердаўскага культурна-дасугавага цэнтра, творчыя работнікі Мінойтаўскага культурна-дасугавага цэнтра і Беліцкага Дома культуры Лідскага раёна.



*ТК "Культура Лідчыны".*

# Правялі зіму

Падчас провадаў зімы ў Лідзе адбыўся цэлы парад Ляляк-Марэнаў.









Канешне ж, самай прыгожай у гэтым гурце была лялька Ласавіца! А невераготнай папулярнасцю на фотазоне карысталася гусачка ў кашы!!!

***ТК "Культура Лідчыны". Фота lidanews.by.***

***Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік***

***Адрас рэдакцыі:***
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 4.03.2024 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3,75 друкаванага аркуша.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*